Opłata pocztowa
uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 4. Вільня, Серада, 8-га кастрычніка 1924 г. Год I.

**СЯЛЯНЕ!** Памятайце, што „Сялянская Праўда“—гэта **вашая газэта**, дык вы самі павінны яе і ўтрымаць. Дзеля гэтага **акуратна шліце падпісныя грошы** і намаўляйце да гэтага другіх!

Хто ў цяжкую пару задоўжыўся, хай, сабраўшы з поля, **адашлець свой доўг!**

Падпішчыкам, якія заплоцяць зразу грошы **за тры месяцы** (да канца году), будзе **бясплатна** разасланы зборнік

***„Заходняя Беларусь“.***

12-га кастрычніка адбудзецца **АГУЛЬНЫ СХОД**

**Беларускага Т-ва помачы пацярпеушым ад вайны**

ў памешканьні гімназіі (Вострабрамская 9) а 4 гадзіне папаўдні.

ПАРАДАК ДНЯ:

1) Справаздача Прэз. К-ту аб дзейнасьці яго за мінулы год;
2) Зьмена статуту;
3) Выбары К-ту;
4) Бягучыя справы.

Калі сход не адбудзецца 12-га кастрычніка, дык наступны будзе 17-га кастрычніка, а 4-ай гадз. ў тым-жа памешканьні, правамоцны пры ўсялякай лічбе прысутных.

Старшыня К-ту **Р. Астроўскі.**

## Перад адкрыцьцем Сойму.

21 ці 22 гэтага месяца канчаецца летні „адпачынак“ паноў паслаў і сэнатараў.

Польская большасьць Сойму не дарма зрабіла гэткі даўгі перарыў у працы Сойму: яна дала вельмі шырокія паўнамоцтвы ўраду п. Грабскага, як-быццам зрокшыся самахоць свайго права кіраваць жыцьцём дзяржавы, — дык склісканьне паседжаньняў Сойму магло-бы толькі папсаваць тую „гармонію“, якая пануе ў Польшчы між уладай і... народам!

Але-ж за час, калі Сойм „папраўляў сваё здароўе“, гэная „гармонія“ пачала псавацца. Перш за ўсё пачаліся дужа няпрыемныя для Польшчы гутаркі ў Лізе Народаў аб тым, што ваяваўшыя міжы сабой вялікія дзяржавы павінны пагадзіцца і ўзнавіць перадваенную палітычную раўнавагу коштам... адабраньня ў Польшчы нямецкіх зямель, якімі яе абдарыў Вэрсальскі мір.

Але гэта толькі йшчэ *гутаркі*... Горшыя рэчы пачалі дзеяцца на „Усходніх Крэсах“ Польшчы. Тутака запанавала запраўдная *анархія*. Кожын дзень газэты прыносяць весткі аб новых аружных нападах на панскія двары, ксяндзоўскія плябаніі, паліцэйскія пастарункі і, нават, на цягнікі з ваяводамі і камандантамі паліцыі... І пад той час, як у адным месцы войска і паліцыя ганяюцца за партызанамі, у другім паўтараюцца тыя самыя сцэны... А беларуская, украінская і, ў значнай меры, польская левая прэса аднадушна сцьвярджае, што анархічны партызанцкі рух на нашых „Крэсах“ — гэта вынік усяе пяцілетняе палітыкі польскага ўраду на Беларускіх і Украінскіх землях.

Грымоты стрэлаў на „Крэсах“ збудзілі ўрэшце салодка спаўшых польскіх „сувэрэнаў“. І вось вынікам гэтага „прабуджэньня“ зьяўляецца вызначэньне пачатку соймавае сэсіі на 21—22 кастрычніка.

Цікавая гэта будзе сэсія! Ужо судзячы паводле рэзкае розьніцы ў асьвятленьні партызанцкага руху польскай правіцовай прэсай—з аднаго боку і левіцовай ды „інароднай“—з другога, можна было сказаць, што сэсія будзе дужа гарачая. Бо пад той час, як лявіца гаворыць аб патрэбе „ратаваць“ „Крэсы“ дарогай увядзеньня аўтаноміі для Заходняе Беларусі і для Украінскіх зямель,— правіцовыя газэты ў вадзін голас дамагаюцца павялічэньня ўціску беларускага і украінскага насяленьня, спыненьня канстытуцыйных свабод на „Крэсах“ і ўвядзеньня ваеннае дыктатуры. Коратка кажучы, лявіца хоча супакоіць край рэформамі, аўтаноміяй, свабодамі; правіца-ж мае гатовую формулу: „перш успакаеньне, пасьля рэформы“, — формулу, пазычаную ад ліхое памяці сталыпінскага ўраду ў царскай Расеі.

Што ў Сойме будзе „горача“, гэта падцьвярджаюць і пастановы партыйных клюбаў правіцы. І эндэцкі клюб (Związek Ludowo-Narodowy), і „пястоўцы“ на сваіх апошніх нарадах прынялі рэзалюцыі, у якіх дамагаюцца абароны цэласьці Польшчы, якой пагражае Ліга Народаў—звонку і анархія на „Крэсах“—знутра,—дамагаюцца „цьвёрдае рукі“ ў супакоеньні „Крэсаў“, яшчэ новае рэарганізацыі паліцыі ( — калі-ж яна ўжо будзе „гатовая“?),—дамагаюцца, ўрэшце, стварэньня новага парляманцкага ўраду, ведама, ізноў „хіена-пястоўскага“.— Аб пастанове-ж галоўнае рады ППС, каб сацыялістычныя паслы зажадалі ў Сойме — свабод і аўтаноміі для „Усходніх Крэсаў“, нашы чытачы ўжо ведаюць.

Ясна, што пры такой супярэчнасьці паглядаў на дзяржаўную палітыку паміж блізу роўнымі паловамі Сойму — правіцай і лявіцай — трудна спадзявацца спакойнае працы Сойму. І „пястоўцы“, разумеючы, што „польскае большасьці“ ім у гэтым Сойме сабраць ня ўдасца, лятуцяць аб зьмене канстытуцыі і выбарнага закону ў такім духу, каб у новы Сойм „меншасьці“ ўжо не папалі.

Але як правясьці ў жыцьцё гэныя зьмены пры адсутнасьці „польскае большасьці“ ў *гэтым* Сойме? Вось пытаньне, разьвязаць якое *канстытуцыйнай дарогай*—нельга.

Дык ці барацьба між партыямі ня выйдзе з Сойму—на вуліцу?...

Пажывем—пабачым!

## Водгукі прыезду Морэля.

Вядомы англійскі сацыялістычны дэпутат, Морэль, які нядаўна прыяжджаў у Вільню і вёў гутаркі з прадстаўнікамі беларусаў і літвіноў, а згэтуль езьдзіў у Львоў дзеля азнаямленьня з палажэньнем украінцаў пад уладаю Польшчы,—выяжджаючы, сказаў карэспандэнту аднае газэты, што **„меншасьці, якія жывуць пад Польшчай, маюць вельмі рэальныя падставы жаліцца“**, ды што **„канечна патрэбны далёка сягаючыя адміністрацыйныя рэформы, асабліва ў Усходняй Галіччыне“**. („Wyz. Ludu“).

## „Гібеньне сяла“.

Пад гэткім загалоўкам зьмешчаны ў „Украінскім Голосе“ вельмі гарачы артыкул—аб гібеньні украінскай вёскі, — які, мала што зьмяніўшы, можна дастасаваць і да—беларускай.

Украінская вёска ў Галіччыне „гіне ад нэндзы ўжо цяпер, а што будзе зімой і на вясну, — пра гэта і падумаць страшна“...—Зямля (—ў каго яна ёсьць!) не ўрадзіла, заробкаў няма, бо крызіс усюды; у Амэрыку ня пускаюць, у Канаду таксама... Ня было зерня нават на сяўбу—дык няма і надзеі на прышлы ўраджай... Бывалі неўраджаі і даўней, але яны неяк перанасіліся лягчэй.—Бо ніколі ня было таго, каб урад ня прыходзіў з дапамогай.

Памагала і грамадзянская дабрадзейнасьць. Былі і спэцыяльна сялянскія дзяржаўныя ўстановы дробнага крэдыту.

Цяпер нічога гэтага няма. Гаспадарства — глуха, сьлепа і мёртва на гора селяніна. Яно толькі бярэ, але не дае нічога. Усюды пустка. Даўнейшыя задаткавыя касы зачынены, бо ў гэтых касах вее вецер.

Пісалася, праўда, у польскіх газэтах аб тым, быццам урад асыгнаваў на дапамогу пабітай неўраджаем вёсцы аж... 2.000 злотых (800 рублёў!).. але—спытайцеся, якая з украінскіх вёсак дастала што з гэтай „hojnej ofiary“... Гэта-ж—ня польскія асаднікі, для дзіравых кішанёў якіх заўсёды адчынены польскі скарб.

„І вось гіне наша вёска, пагібае!..—Ні адкуль ня відаць дапамогі!“

Дайшло да таго, што людзі цэлымі грамадамі ходзяць па панскіх дварох і прадаюцца ў няволю — у запраўдную паншчыну—за грашы! Настаў для паноў запраўдны дармавы рай, збудаваны на сялянскай пагібелі,—гэтулькі рабочых рук, што няма куды прылажыць і чверці іх!

Для заробкаў па—за межамі краю адчынена адна толькі Францыя... Толькі з ёй удзячная панская Польшча гатова падзяліцца падараваным ёй шчасьцем-багацьцем дармавых рабочых рук галодных, згалеўшых украінскіх сялян...

Але сялянства добра ведае, якая страшэнная няволя чакае яго эмігрантаў у гэтай „дэмакратычнай“ прыяцелькі Польшчы...

Польскія сялянскія газэты падавалі папросту жудасныя весткі аб жыцьці і вызыску там эмігрантаў-работнікаў з Польшчы...

Дык, калі польскія консульскія ўлады не бароняць там **сваіх** польскіх сялян, то што казаць аб адносінах іх да лёсу чужых—няпольскіх, якіх і ў сябе дома ўлада ня лічыць за людзей?

Няхай-жа гэтая бяда рэшце хоць навучыць сялян шукаць сабе дапамогі ў сваей грамадзе—ў **самапомачы і самаарганізацыі.** Калі няма ні адкуль звонку помачы, дык і ня трэба на яе адтуль спадзявацца.

Украінская газэта справядліва кажа, што гэтую ўсенародную бяду трэба выкарыстаць дзеля **аб'яднаньня сялянства ў прафэсіянальныя сялянскія** і работніцкія арганізацыі.

## Габінэту Мак-Дональда пагражае небясьпека.

Як ведама, вялікай небясьпекай для ўраду Мак-Дональда пагражае галасаваньне парляманту аб ратыфікацыі англа-радавага дагавору, процi якога адволькава выступаюць і кансэрватары і лібэралы, — ды за які моцна стаіць, націскаючы на ўрад, работніцкая партыя.

А вось толькі што ўзьнялася новая пагроза габінэту. Нядаўна рэдактар камуністычнага тыднёвіка быў арыштаваны і аддадзены пад суд за артыкул, у якім пракуратура ўгледзіла прызыў да бунту. Але па загаду генэральнага пракурора (сябры ўраду) рэдактар быў звольнены да судовай расправы.

Справа гэта была парушана ў парляманце. Тлумачэньні генарал-пракурора не здаволілі ані кансэрватараў, ані лібэралаў, і яны зрабілі згодную прапазіцыю выразіць загану ўраду, прапазіцыя будзе прынята напэўна, бо яе аўтары маюць за сабой агромную большасьць, што выкліча адстаўку ўраду, або новыя выбары.

Новыя выбары — зусім пэўная рэч. — Справа ўжо толькі ў тым, ці яны адбудуцца 8 ці 15 лістапада.

Ува ўсіх партыях адбываюцца прадвыбарныя канфэрэнцыі — у справе ўстанаўленьня дня выбараў.

## Канфлікт паміж Ягіптам і Англіяй.

Канфлікт паміж Ягіптам і Англіяй ніяк ня можа зьліквідавацца.

На дамаганьні Заглула-пашы Мак-Дональд аканчальна заявіў, што англійскія войскі з Ягіпту ня могуць быць выведзены, бо яны павінны сьцерагчы Суэцкі канал (найкарацейшы марскі шлях у Індыю).

На прапазіцыю ягіпецкага прэм'ера аддаць канал пад ахову Лігі Народаў Мак-Дональд (гарачы прыхільнік яе вярхоўнага прэсьціжу!) адказаў рашучай адмовай.

На прапазіцыю саюза з Англіяй Заглул-паша адказаў згодай, але заявіў, што ня можа пачаць перагавораў, пакуль англійскія войскі ня выйдуць з Ягіпту...

## „Дзяржаўныя„ душаць голас „недзяржаўных“.

На міжнародавым кангрэсе „сацыяльнае палітыкі“ ў Празе першым прамаўляў прадстаўнік славацкага народу д-р Лабай, якому прэзыдыум даў голас ня як прадстаўніку свайго асобнага народу, але як сябру супольнай чэхаславацкай дэлегацыі. Аратар пачаў з крытыкі гэтай пастановы прэзыдыуму, пасьля перайшоў да патрэбаў і жаданьняў славацкага народу ў галіне сацыяльнай (справа безрабоцьця і інш.). Але, як толькі славацкі дэлегат пачаў гаварыць аб незалежніцкіх ідэалах свайго народу, зараз-жа Старшыня кангрэсу, вядомы Альбэр Тома, пазбавіў яго голасу...

## Страты ад паводкі ў Петраградзе.

З Рыгі наказуюць:

Паводле падрахункаў, страты ад паводкі ў Петраградзе — надта вялікія. Пацярпелі каля 3,000 дамоў, 46 караблёў выкінуты на бераг.

## У Мэццы—паніка. Адрачэньне караля Гуссэйна.

З Мэккі бягуць усе. Астаўся толькі кароль Гуссэйн з сваім войскам і дваром, ды калекі...

Заглул-паша данёс Мак-Дональду, што вагабіты (паўстаўшае магутнае племя арабаў) яшчэ не атакавалі Мэккі. Кароль Гуссэйн мае бараніцца... Палажэньне — такое, што каб кароль Гуссэйн адрокся ад трону (на які яго пасадзілі англійцы!), дык прычына праліцьця крыві была-б адхілена...

Праз колькі гадзін атрымана паведамленьне, што кароль Гуссэйн адрокся ад трону.

# БАНДЫТЫ і НАПАДЫ.

## Прычыны няўдачы пагоні за Лунінецкай бандай.

„Wiek Nowy“ лічыць прычынай няўдачы пагоні за Лунінецкай бандай—**спазьненьне патруляў**... Другой прычынай было тое, што ў распараджэньні ваяводзкага ўпраўленьня была толькі адна карта Палесься, якую начальнікі атрадаў папросту рвалі з рук адзін у аднаго...

Відаць, „скептыцызм“ п. Міністра Гюбнэра—адносна „паліцэйскіх камунікатаў“ аб пасьпешнай пагоні быў даволі абасняваны... (Глядзі размову міністра ў „Kur. Polsk.“ № 267).

## 10 сяброў Лунінецкай банды пад судом.

„Kur. Por.“ падае, што, паводле пастановы пракурора Пінскага акруж. суда, 10 арыштаваных бандытаў, сяброў лунінецкай банды, аддадзены пад даразны суд, а адзін пад суд звычайны.

Прозвішчы гэтых 10-х: Адам Курыловіч, з маёнтку Адэлін, 29 гадоў; Павал Бертач 31 г. з в. Дзянішкевіч; Кірыла Новік, 26 г., з Таўрылевіч; Кузьма Нарымоньчык, 32 г., з Любані; Антон Палуян, 26 г., з хут. Тавалча; Тамаш Палуян, 65 г. (!)—з Тавалчы; Тодар Саўрон, 38 г., з Луніна; Саўка Соц, 23 г., з Волькі; Мікіта Клюка, 24 г., з Ядаўкі; Янка Сеўшык, 38 г., з Ядаўкі.

Гэтаму суду аддадзены і нейкі Ігнацы Гузноўскі з Баранавіч, 20 г.

Суд над усімі адбудзецца 12 кастрычніка.

## Сьмяротныя прысуды.

4.Х Кракаўскі акружны суд засудзіў забойцу Анны Вроны на кару сьмерці праз расстрэл. Прысуд зацьверджаны камандзірам корпусу. Забойца прыняў прысуд з усьмешкай. Казьнь адбылася.

(„Kur. Por.“).

3. Х. Даразны суд у Астрогу засудзіў 5 **украінцаў**, жыхароў Астроўскага пав., на кару сьмерці праз расстрэл—за тое, што яны ў ноч на 20 жніўня ўзброенныя напалі на кватэру нейкага Остроголова і зрабавалі ў яго **ўбраньне і сукно...**

Абаронцы і сем'і засуджаных зьвярнуліся да Прэзыдэнта Рэспублікі з просьбай аб памілаваньні, але п. Прэзыдэнт на просьбу не зьвярнуў увагі.

Прысуд выпаўнены поўнасьцю...

## Падрыхтоўка новых бандаў.

З Роўна наказуюць, што ў Стара-Канстантынове арганізуюцца 4 новыя банды, якія рыхтуюцца да нападу на Астры і Збараж. Адна быццам ужо—ў дарозе...

## Катастрофа цягніка.

На станцыі Порай, каля Чэнстахова, здарылася ад нявыкрытай прычыны катастрофа з таварным цягнікам, які йшоў на Варшаву.

## Замаскаваныя бандыты.

„Kur. Por.“ падае:

4 кастр. ў 8 гадз. раніцы каля вёскі Сяргеевічы, Дуніл. пав., 3 замаскаваныя бандыты напалі на праяжджаўшых людзей і аграбілі іх. Паведамленая ўлада загадала пагоню, якая не дала рэзультатаў, бо бандыты, **відаць**, уцяклі за радавую граніцу.

# ХРОНІКА.

**Яшчэ аб беларускай дэлегацыі да п. Грабскага.** Дзеля таго, што польскія газэты аб беларускай дэлегацыі да Старшыні Міністраў, п. Грабскага, падалі весткі баламутныя і нязгодныя з праўдай, быццам беларускія паслы хадзілі заяўляць аб сваей „лаяльнасьці“ да польскае ўлады. Нязгоднасьць гэтых вестак з праўдай сьцьвярдзіў ужо прэзыдыум Бел. Пасольскага Клюбу ў сваім камунікаце 3. Х. сёл. г., мы-ж з свайго боку зьвярнуліся да самых дэлегатаў і, паводле іх слоў, высьняем гэтую справу.

Бел. Пас. Клюб на сваім паседжаньні 1. Х. сёл. г., між іншым, зьвярнуў увагу на нябывалыя перашкоды з боку польскіх уладаў у справе адчыненьня беларускіх пачатковых школ, у зьвязку са школьным законам, увайшоўшым у жыцьцё 1.Х.24 г., і на тое цяжкое палажэньне беларускага народу, якое вынікае з такіх да яго адносін гэтых уладаў.

Дзеля гэтага Клюб, уважаючы за свой абавязак бараніць сваіх выбаршчыкаў і за сваё права дамагацца правядзеньня ў жыцьцё істнуючых законаў, — пастанавіў выслаць дэлегацыю да Старшыні Ураду, даручыўшы ей весьці гутарку выключна аб уціску беларускага школьніцтва, дамагаючыся ад ураду запраўднага выпаўненьня закону аб школьніцтве.

У склад дэлегацыі ўвайшлі: пасол кс. А. Станкевіч, як Старшыня Бел. Цэнтр. Шк. Рады, пасол П. Мятла і сэнатар Уласаў.

Сябра дэлегацыі кс. А. Станкевіч пры спатканьні з п. Грабскім 2.Х.24 адразу зазначыў характар дэлегацыі ў сэнсе пастановы Клюбу, апісаў цяжкое і бяспраўнае палажэньне беларускага школьніцтва і злажыў на пісьме вось гэтыя дамаганьні, якія ужо надрукаваны ў № 3 „Сялянскае Праўды“.

Усё гэта Старшыня Міністраў прызнаў слушным і заявіў, што гэта павінна быць споўнена, ды што *ўжо* ўрад выдаў інструкцыю, якая мае правясьці ў жыцьцё закон аб школьніцтве для меншасьцяў.

На гэтым і скончылася аўдыенцыя беларускай школьнай дэлегацыі ў старшыні польскага ўраду.

Іншых гутарак, апрача вышэйсказаннага, ня было зусім.

**Беларускія гімназіі ажываюць!** Ня глядзячы на нялічаныя перашкоды, стаўляныя беларускай школе польскаю ўладаю, ня глядзячы на зачыненьне ў леташнім школьным годзе ажно трох (з пяцёх!) беларускіх гімназіяў у Заходняй Беларусі, — наша сярэдняя школа ізноў аджывае. Адчынілася нанова гімназія ў Наваградку. Замест зачыненае ў Нясьвіжу адкрыта беларуская гімназія ў суседнім Клецку. І толькі замест зачыненае гарадоцкае гімназіі не ўдалося сёлета адчыніць праектаванную гімназію ў Глыбокім.

Хай-жа Глыбокае бярэцца на пазуры і свайго дабіваецца больш энэргічна!

мужчын!.. Мы чыталі, што былі там ваенныя, паліцыянты, жандары, дык хіба-ж мелі аружжа!.. Пасьля астаноўкі цягніка сталі чутны стрэлы. — **Дык на тое, каб дастаць аружжа і падрыхтавацца да абароны было даволі часу.** Але-ж мы ня чулі, каб хто з бандытаў быў пакрыўджаны... Людзі (ваенныя і маючыя аружжа! Х.) распраналіся, клаліся на падлогу, пазвалялі сябе біць... Але — бараніцца?—Дык хто-ж бы пасьпеў!“.

„І вось, у гэтым і ёсьць **галоўная прычына ўдачы** і пашырэньня бандыцкіх нападаў“, кажа газэта.

„Але грамадзянства мае права трэбаваць, каб кожны здольны да адпору даваў адпор—так, як ніхто ня можа адмовіцца ад супольнай працы ў часе пажару, паводкі, вайны, хаця-б гэта пагражала нават утратай жыцьця“.

„Народ, канчае газэта, які хоча мець значэньне ў сьвеце, ня можа быць стадам баранаў, якіх адзін пастух можа спакойна стрыгчы... Ён павінен мець людзей адважных, павінен мець герояў... **Інакш ён ня ёсьць народам, але таўпой, якой папіхае прыпадак**“... Гэтыя словы газэты даюць многа для зразуменьня бандыцкага руху на „Крэсах“.

Але—ці-ж орган мясцовых польскіх нацыяналістаў запраўды хоча з прыведзеных ім-жа і сьцьверджаных фактаў зрабіць сумны вывад, што польскі народ—толькі „таўпа, папіханая прыпадкам“!

Ведама-ж добра, якую сумную, пагардлівую апінію аб сваім уласным народзе маюць заўсёды, за гучнымі фразамі, усялякія нацыяналісты.

І мы зусім ня зробім падсуванага шовіністычнай польскай газэтай сумнага вываду аб **польскім народзе— ў Польшчы**.

Але-ж мы павінны з усяго таго, што зусім аб'ектыўна і бясспрэчна сьцьверджана ў часе сымвалічнага нападу, зрабіць да канца такія-ж бясспрэчныя вывады, якіх ня можа ці ня хоча зрабіць польская прэса...

## „Бандыцкая форма палітычнай дзеяльнасьці“ і прычыны яе пасьпеху — „тады“ і цяпер...

Перадусім — вельмі навучальную аналёгію з нападамі на „Крэсах“ падсоўвае тая самая Обставая газэта—ў тым-жа артыкуле, параўноўваючы гэтыя напады з нападамі на цягнікі і ўрадовыя ўстановы рэвалюцыйных арганізацыяў у часы панаваньня былай царскай „самадзяржаўнай бюрократыі“...

Як сьцьвярджае газэта, „бандыцкую форму для палітычнай дзеяльнасьці на тэрыторыі польскіх зямель“ увяла ў практыку ў 1904—5 г.г.—**польская** рэвалюцыйная партыя (P.P.S.)...

Ці-ж трэба дадаваць, дзеля чаго так дасканала,—якраз, як цяпер, удаваліся тады ўсе гэтыя напады і экспрапрыяцыі? — І дзеля чаго так не ўдаваліся „на тэрыторыі польскіх зямель“, акурат, як цяпер—на беларускіх, — усе спробы і высілкі адміністрацыі і паліцыі злавіць нападаўшых?!.

Бо—ці-ж мы маем якую падставу верыць усім тым весткам аб быццам схопленых бандытах, якія афіцыяльна ці неафіцыяльна падаюць газэты, калі **сам міністар унутраных спраў**—у сваім інтэрвью („Kur. Pol.“ № 267) заявіў літэральна вось што: „Акцыя пагоні—вельмі цяжкая!—Павадыры і ўсе тыя, якім гэта было патрэбна, лёгка ўцяклі ў Расею, а ўчасьнікі нападу, якія жывуць у Польшчы, зусім свабодна маглі пахаваць аружжа і схавацца ў хатах... Праўда, **паліцэйскія камунікаты кажуць нешта іншае** (—аб дзесятках спайманых партызанаў—Х.), але **я, як стары пракурор, умею трактаваць гэтыя весткі з пэўнай дозай скептыцызму**“ (недаверыя). На простую мову пераклаўшы, гэта мае значыць, што паліцыя папросту бярэ тых ці іншых людзей і „дабывае“ з іх „прызнаньне“...

Ці не за гэты „скептыцызм“ п. Гюбнэр мае атрымаць адстаўку?!

## „Бандыцкая псыхалёгія на „Крэсах“.

Яшчэ вельмі важную для апошняга вываду псыхалягічную рысу адзначае ў бандытаў „Dz. Wil.“—Бандыт „**тэрорызуе палахлівых, але сам уцякае перад адважнымі**“, кажа аўтар арт., п. Лесеўскі.

Але—ці-ж ня тая самая **здэмаралізаваная псыхалёгія** выпрацоўваецца і ў паноў Менсовічаў, якім дана поўная і бескантрольная магчымасьць куражыцца і зьдзекавацца **над безбаронным** беларускім насяленьнем, і якія адразу **трацяць увесь свой „кураж“**, як толькі ўбачаць перад сабой **узброеннага імсьціцеля** за тыя зьдзекі і крыўды, якія гэтак лёгка робяцца імі над безаружным народам.

Пануючая на „Крэсах“ — на абедзьвюх ваюючых старанах **адзіная і супольная „бандыцкая псыхалёгія“** даказываецца бясспрэчна **тэй лёгкасьцю і частасьцю, з якімі польскія паліцыянты на Крэсах пераходзяць за радавую граніцу:—пераходзяць паліцыянтамі, варачаюцца бандытамі.**—Ясна, што **для іх гэтай граніцы—як геаграфічнай, таксама і псыхалягічнай—няма!..**

Х.

**У каталіцкай духоўнай сэмінарыі.** Чытачы беларускіх апазіцыйных газэт ужо досіць добра знаёмы з палажэньнем **праваслаўнае** духоўнае сэмінарыі ў Вільні, якую „ўслужаючыя“ іерархі адмовіліся перарабіць з маскоўскае на беларускую (беларусы не маглі сыпнуць ім грошы!), але ахвотна ператварылі ў рассаднік польшчыны, калі польская ўлада прыняла ўтрыманьне яе і пэнсіі вучыцялём на свой кошт.

Цікава пазнаёміць нашых чытачоў і з палажэньнем, якое ўтварылася ў віленскай **каталіцкай** духоўнай сэмінарыі, якую каталіцкая духоўная ўлада ўжо даўно абярнула ў фабрыку польскіх эндэцкіх агітатараў. Вось, што піша аб ёй „Krynica“.

На чале Віленскай Духоўнай Сэмінарыі стаіць чалавек ужо „прошлага веку“, пераняты старымі польска-шляхоцкімі традыцыямі, ня маючы ніякіх пэдагагічных прэтэнсіяў, а так-жа шырэйшага пагляду на беларускае жыцьцё.

А інспэктар у справах нацыянальна-грамадзкіх на столькі агранічаны, што не патрапіць адрозьніц рэлігіі ад нацыянальнасьці, як гэта ярка паказалася некалькі гадоў таму з адным клерыкам, нейкім Рубінштэйнам, жыдам, прыняўшым каталіцтва, каторы цьвярдзіў, што ён па нацыянальнасьці жыд, а па рэлігіі каталік. Дык вось інспэктар ніяк гэтага ня мог зразумець і доўгі час выгаварываў таму Рубінштэйну, што якжа-ж можна быць і жыдам і каталіком!..

Урэшце ступень навукі ў Вільні цяпер даволі нізкі, хоць-бы для прыкладу ўспомнім сялетнія матуральныя экзамены, па каторых дэлегат Віленскай Куратoрыі з вялікім зьдзіўленьнем гаварыў клерыкам, што ён, як жывець, дык так слаба прыгатаваных матурыстаў ня бачыў.

Вынік быў такі, што, на добры лад, па пісьменных экзаменах можна было дапусьцiць да вусных толькі аднаго чалавека!

Вось якія вынікі дае Віленская Сэмінарыя з пункту навуковага і пэдагагічнага! А ўжо пра беларускасьць няма чаго і гаварыць—клерыкі з гэтым баяцца і піснуць, і аказваюцца толькі тады, калі ўжо атрымаюць субдыаканат... тады бесьпячней. Добры пэдагог лёгка зразумее, як гэтым псуюць душу моладзі і разьвіваюць у ёй скрытнасьць і крывізну.

Гэтак стаіць справа з Віленскай Сэмінарыяй.

**Падвойны прысуд на сьмерць.** 3/X Апэляцыйны суд у Вільні зацьвердзіў сьмяротны прысуд мужу і жонцы (адначасна—брату і сястры!) Станіславу і Яніне Зблоньскім (палякам), за 5 забойстваў.

# Карэспандэнцыі.

## Жарты, ці кпіны?

*(З Нясьвіжскага пав.).*

На просьбу сялян в. Круты-Бераг, Гарадзейскай гміны, аб адчыненьні ў іх вёсцы беларускай школы, школьны інспэктар Нясьвіжскага пав. адказаў: чакаць канцэсіі.

Тым часам прыслаў трох польскіх вучыцелек, каторыя, не зважаючы на заявы бацькоў, што сваіх дзяцей у польскую школу пасылаць ня будуць, а жадаюць беларускай школы, усё-ж такі запісываюць нашых дзяцей у польскую школу.

На просьбу сялян нашае вёскі і гр. Ганны Малойло аб назначэньні яе вучыцелькай у нашай беларускай школе пан інспэктар прыслаў паперку такога зьместу:

Inspektorat Skolny<br>pow. Nieświżskiego.<br>Dnia 23/IX 1924 r.<br>№ 3483.<br>w Nieświeżu.

ODRĘCZENIE.

Do<br>p. Anny Małojło<br>w. Krętym-Brzegu<br>Horodziejskiej gm.

W odpowiedzi na podanie Pani z dn. 9/IX r. b. Inspektorat komunikuje, iż nie może Pani być udzielona posada z powodu braku odpowiedniego wakansu.

(—) Piotrowski<br>Inspektor szkolny.

Так, нам кажа чакаць канцэсіі, нашай вучыцельцы адмаўляе пасады. Што-ж гэта такое?!

Пытаюся ў пана Інспэктара, ці гэта — жарт, ці кпіны?

**Х.**

## Добры спосаб.

*(Сьвянцяны).*

Пішуць газэты, што ..яма ведама, калі Польская ўлада парупіцца адчыніць курсы беларусазнаўства і літвазнаўства дзеля падгатоўкі сваіх урадоўцаў на Крэсах для сумленнага правядзеньня закону аб мовах меншасьцяў. Ось, у нашых сялян зьявілася, відаць, думка самім выадукаваць сваіх павятовых урадоўцаў і бяз курсоў і хутчэй.

У прошлыя рынкі ў Сьвянцянах найчасьцей сяляне прадавалі і старговываліся лепш з тымі панамі і панямі, каторыя ўмелі разгаварыцца палітоўскі ці пабеларуску, а калі хто ня ўмеў, дык ішоў часта з пустым кошыкам да дому, а прадукты купляў крамнік, які заўсёды гаворыць ці палітоўску, ці пабеларуску. Калі хто і пачынаў сварыцца, што яму адказывалі не папольску, дык чуўся ў адказ: „Вучыся, пане, гутарыць панашаму: на гэта і закон ужо напісаны!“

**Сябра.**

## Вайна з дзяцьмі.

*(М. Маладэчна).*

2. VIII-24 г. на Зававі здарыўся гэткі факт. Пражываючая ў Панасюковай кватарантка, К. Велькаyцова, буфэтчыца са станцыі, пасьля непаразуменьня з прычыны неаплаты ёю за кватэру, узьвяла на васьмёх гадовую дзяўчынку — дачку Панасюковай абвіненьне, што яна ўкрала ў яе залаты пярсьцёнак. Папрасіўшы паліцыянта з чыгунковага пастарунку, Велькаyцова з ім зьявілася ў кватэру Панасюковай, дзе ляжаў хворы муж апошняе.

Нарабіўшы гвалту, шуму, схапілі дзіцянё, пачалі дапрашываць, а калі нічога не дабіліся, дык **запёрлі дзяўчынку ў хлеў да сьвіней.** Апынуўшыся ў такім пакоі і ў такой кумпаніі, перапалоханае дзіцянё пачало нема раўсьці і біць у дзьверы. Нарэшце паліцэйскі дадумаўся лепшых сродкаў дабіцца праўды: выпусьціўшы з хлява дзяўчынку, узяў яе пад паху і **панёс у арышт.** На ўсе просьбы маткі, каб асвабадзіў, трыумфуючы паліцыянт нёс па вуліцы балтаючае нагамі і рукамі дзіцянё. **Пратрымаўшы ў арышце ад 12 гадз. раніцы да 10 гадз. вечара,** выпусьцілі.

Але, выпусьціўшы палоньніка, зноў шкада стала, а тым больш, што мусіць гарэлка пані буфэтчыцы Велькаyцовай паддала больш моцы. Паліцыянты ўжо ў лічбе не аднаго, а цэлага пастарунку, у начы з 2 на 3. VIII зьявіліся пад дзьверы Панасюковай, абзываючы зладзеямі, крычучы і стукаючы, каб адчынілі. Пратырчэўшы пад зачыненымі дзьвярмі нейкі час, паліцыянты згінулі. Хворы-ж Панасюк, катораму прыходзілася ўставаць з ложка і прасіць паліцыянтаў, каб далі супакой яму і сямейству, праз 15 мінут, як адыйшлі паліцыянты, усхапіўся з ложка з крыкам: „паліцыя ломіць дзьверы!“, паваліўся на падлогу і тут-жа сканаў.

У прысьпяшэньні сьмерці мужа жонка лічыць вінаватымі паліцыянтаў. Справа пайшла ў суд. Але цікава, што сьледзтва вядзе „kierownik“ таго самага пастарунку, які ўчыніў усю гэтую дзікую справу!

**Д. К.**

## Дзіўныя „экспэрты“.

*(З Ваўкавыскага пав.).*

У нас, сялян вёскі Лаўрынавіч, Лыскаўскае гм., Ваўкавыскага пав., 7 гэтага верасьня адбыўся вобыск табакі. Дзеля чаго прыехалі нейкія, як кажуць, — паны. Скуль яны і хто, мы ня ведаем, мусі вялікія, калі мала размаўлялі з народам, а распараджаліся, як гаспадары.

Я жыву пры краю вёскі, то да мяне прыйшлі амаль не да першага; (у які час я быў на сенажаці ў вагародзі). Угледзіўшы чужога чалавека, я падыйшоў, калі ён прыглядаўся па загонах, каля маей хаты.

Чаго прыглядацца?... кожнаму відаць, што буракі і тыя слаба выраслі — сказаў я.

— „Ale tobak dobry wyrósł“ адказаў тэхнік.

Зьмерыў кіёчкам, налічыў аж 32 кв. мэтр., папытаў у старасты маё прозвішча, запісаў і пайшоў далей. — Я на гэта нічога не сказаў, бо вельмі дзіво, што тэхнік не разабраўся: колькі разоў вырываў, якія колечы расліны кажучы: „tobak“.

Ня ведаю, што будзе? Плаціць я не намераны, бо вельмі люблю праўду, а што ў мяне ня было табакі, гэта можа сьцьвярдзіць кожны селянін нашае вёскі.

Перайшоўшы з вобыскам усю вёску, паны засталіся начаваць у нашага старасты, дзе і мне вечарам здарылася быць. Калі я папытаў пра табаку, дык другі сказаў: (бо іх было двох:) „ja chcę wody święconej“, на што я адказаў: напершым ня ведаю, якой вам трэба вады, а падругім каб і ведаў дык няма за што.

А што датычыць жыцьця сялян нашае гміны, проста скажу — крытычнае. Найгорш цягнуць сок падаткі і штрафы: за сьвіней, сабак, коміны, мяцёлкі, драбіны, басакі і г. д., што і не пералічыш; усё падае на нашага беднага гарапашніка селяніна.

Безумоўна, ўсяго вышэй казанага наш селянін аплаціць ня можа, а плаціць пакутаю...

**Васіль Шкодзіч.**

# Сельска-гаспадарскія парады.

## Зьбірайце пладовае насеньне.

Кожны ў нас на вёсцы любіць мець свой садок. Дзічкі ў садзе прышчапляюць самі гаспадары, або—заводзячы сад нанова — звычайна купляюць прышчэпы; гэта бывае часьцей. Ды дзе-ж, дапраўды, мець столькі дзічкоў у садзе ды яшчэ так разьмерана раней пасаджаных, каб гаспадару нашаму вясковаму, прышчапіўшы гэныя дзічкі, мець сад? Калі хлапец-пастушок прыцягне з сабой з поля або з лесу *вырваную* (рэдка—выкапаную) яблынку ці грушку дзікую, дык і добра, хоць яна часам бывае і крывая і з парашчэплянымі карэньнямі, і старая. Балазе! А і садзіць часта хлапец гэты дзічок як і дзе папала—ў вузкай і мелкай ямцы каля мяжы, пад сьцяной у цяні—абы расла! І рад хлапец, калі на вясну прымецца грушка-дзічка, ды і старым падабаецца, што „вот-жа расьцець нешта“ ў садзе. А калі ў далейшым і прышчэпіць гаспадар яе, хоць часта і надта высака, на сукох проста, дык і марнее, седзючы на ранейшым мейсцы, гэтае дрэўца ў цяні, або абломліваецца і калечыцца, стоючы пры чужой мяжы.

Як-жа зрабіць, каб дзічкоў было шмат у распараджэньні гаспадара і каб лёгка было іх перасаджваць у належным для саду парадку і каб лёгка, удачна і выгодна было прышчэпліваць іх?

Практычнейшыя людзі ў некаторых мяйсцовасьцях у нас даўно ўжо разводзяць з зярнят яблынь і груш дзічкі-сеянцы ў сваім садзіку на сонечным вольным кавалачку, потым, рассадзіўшы іх, прышчапляюць і маюць патрэбныя для сябе ў садзе і для прадажы прышчэпы розных гатункаў.

*Важна зрабіць пачатак.* Вот-жа, як прачытаеш гэта, чалавечка, дык *адразу пачні зьбіраць зярняты дзікіх яблынь нашых і груш,* а таксама ад антонаўкі, пепінкі або ад сібірскай ці кітайскай яблыні, а з садовых груш—ад вінёўкі, малгажаткі і г. д. Няхай не прападзе ніводнае зерняткa; няхай зьбяруць дзеці як найбольш іх. Ад дзічкі нашай зярняты лічацца для гэтага найлепшымі навет.

Ня можна сушыць іх на печы і ня варта на сонцы, а трэба сушыць іх на вышках, пад страхой, падвесіўшы іх у торбачцы так, каб не паелі іх мышы. Надта шкодзіць зярнятам, калі хаваюць іх у цёплай хаце, асабліва каля печы.

Калі і як высяваць іх у грунт? А вось як. Прыгатаваць цяпер-жа, загадзя, у гародзе ці ў садку на сонечным мейсцы, глыбака ўзараўшы, ляху (градку), а то і дзьве, шырынёй ня больш як па $1^{1}/_{2}$ арш. Гэта—каб лепей было палоць на лета. Сеяць зерняты не адразу, бо іх могуць і ў зямлі пажаваць мышы. Найлепі так: як пачнуцца ў восень маразы, тады на градцы ўпоперак правесьці няглыбокія (як для буракоў) раўкі на пядзю адзін ад другога і ў кожным равочку пасеяць зярнят 20—30. Зараўнаваўшы, засыпаўшы зямлёй равочкі, варта паліць іх пад мароз вадой,—тады не пажуюць іх мышы, а то бывае, што пад сьнегам, калі зямля ня ўмерзшая, дык мышы будуць жывіцца імі і абойдзе іх мала.

Дык-жа зьбірайце зярнят, як найбольш, сушыце і сейце іх, як я казаў вышэй, а вясной, як абойдуць яны, тады ўзноў паведамлю вас, што і як рабіць.

**Гаспадар Сымон.**

# Паштовая скрынка.

**Ж Нарамічу. пошта Дзятлава.** Наша газэта йдзе тэй-жа дарогай, аб якой і вы кажаце.

Што датычыць думкі групы вашых аднасяльчан зьвярнуцца да сумленьня адказнага рэдактара „Грам. Голасу“, п. Салаўя, дык гэта зусім дарэмна: тут справа ня ў ідэйнасьці і не ў „абмылцы“, а выключна, ў грошах.

На вашу просьбу мы выясьнілі ў рэдакцыі „Krynісу“, што яна і ня думала даваць „Грам. Голасу“ сваіх адрасоў. Відаць, орган п. Валэйшы „здабыў“ адрасы падпішчыкаў „Krynісу“ тым-жа спосабам, як і адрасы „Сына Беларуса“: у гэтым п. Валэйша „спэцыяліст“, бо прайшоў добрую крымінальную школу!

**Язэпу С. у Вялікай Ліпе.** Прысланае аддадзена, каму прасілі.

**Пестраку ў Сакаўцах.** На жаль, дзеля незалежных ад нас прычын надрукаваць ня можам. Прабуйце пісаць апавяданьні!

**Нешчасьліваму чытачу „Грам. Голасу“.** Што б. паліцыянт пашырае ў вас „Грам. Голас“ і што камандант пастарунку пахваляе чытаньне яе, — у гэтым нічога дзіўнога і „пікантнага“ няма: газэта-ж гэная істнуе дзеля таго, каб змагацца з законна выбранымі народнымі дэпутатамі-беларусамі!

**Уладзімеру Мулінскаму, Міхалу Плоскаму, М. Адамовічу, Р. Кунцэвічу, Янку Грыгору, Яну Ельскаму, К. Гаворку, В. Кузьмічу, Філютовічу, Семёну Скоку, Кузьме Севашку, Юльяну Падбелло, Марыі Пэтліцкай, Язэпу Катынскаму, Аляксею Патаповічу, Віктару Найдзюку, Антону Цехановічу, Максіму Краснапольскаму, Міхалу Хіранчуку, Васілю Сокалу, Паўлу Дылько** — ад усіх па 2 зл. атрымалі. „Сялянскую Праўду“ высылаем. **Я. Лешчынскаму і М. Хаванскаму** — па 3 зл. атрымалі. Газэту высылаем. **Юльяну Дарашчонку** — 4 зл. 50 гр. атрымалі. „Сялянскую Праўду“ высылаем. Ад **У. Б.,** — 5 зл. і ад **А. Завадзкага** — 5 зл. 55 гр. атрымалі. Газэту высылаем. **П. Конону, Юстыну Гардзейко і Мікалаю Палонскаму** — па 4 зл. атрымалі. Газэту пасылаем.





Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.